ДЗІДА

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ ГАРАДЗЕНСКАГА МАЛАДОГА ФРОНТУ

№4 (25)
Верасень 2007

# Прыйшоў і наш час



Эўрапейскі Марш "За свабоду!" пройдзе ў сталіцы Рэспублікі Беларусь Менску 14 кастрычніка 2007 года. Ідэя правядзеньня Марша нарадзілася ў беларускай грамадзянскай супольнасьці як рэакцыя на зварот Эўразьвяза да ўрада і народа Беларусі "Што Эўрапейскі Зьвяз можа даць Беларусі". У нашай краіне гэты дакумэнт вядомы як "12 прапаноў Эўразьвяза".

Мэтай Эўрапейскага Марша зьяўляецца дэманстрацыя эўрапейскага выбару беларускага народа.

Ініцыятыва грамадзянскай супольнасьці па правядзеньні Эўрапейскага Марша атрымала шырокую падтрымку вядучых палітычных дэмакратычных партый, грамадска-палітычных рухаў, няўрадавых і моладзевых дэмакратычных арганізацый, грамадзянскіх кампаній, дзеячаў культуры

"Мы – эўрапейцы і хочам прадэманстраваць свой эўрапейскі выбар"- адзначыў **А.Мілінкевіч** падчас сустрэчы са старшынём Эўрапарлямэнта.

- Вяртаньне ў свабодную і заможную Эўропу - гарантыя захаваньня нашай незалежнасьці і культуры, разьвіцьця эканомікі і росту дабрабыту".

Лідэр руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч асабіста запрасіў старшыню Эўрапарлямэнта Ганса-Герта Пэтэрынга і дэпутатаў Эўрапейскага парлямэнту на Эўрапейскі марш "За Свабоду".

**Рыгор Барадулін:** ***«Няхай эўрапейскі шлях будзе пераможным!»***

Народны паэт Беларусі Рыгор Іванавіч Барадулін падтрымаў Эўрапейскі марш: *"Я заўсёды бачыў для Беларусі толькі эўрапейскі шлях разьвіцьця. Няхай эўрапейскі шлях Беларусі пройдзе з годнасьцю і будзе пераможным. Да Эўрапейскага Маршу, удзелу ў ім стаўлюся вельмі пазытыўна, бо трэба варушыцца. За нас гэтыя крокі да эўрапейскай будучыні ніхто не зробіць".* *Уладзімер Арлоў: «Кожнай нацыі Бог пасылае выклік»*

Гісторык і пісьменьнік **Уладзімер Арлоў** заклікаў беларусаў далучыцца да Эўрапейскага маршу:

*"Я пайду, каб быць разам з людзьмі. Мне здаецца, што кожнай нацыі калі-небудзь Бог пасылае выклік і чакае адказу. У нашым выпадку гэты выклік быў кінуты ў сярэдзіне дзевяностых, калі вельмі востра стаяла пытаньне Незалежнасьці і менавіта падчас тагачасных акцый было вырашана пытаньне зь Незалежнасьцю. Я лічу, прапановы Эўразвяза - гэта рука, працягнутая ад ЭЗ да Беларусі. І калі б нашая ўлада таксама працягнула руку, то праз непрацяглы час мы б жылі ўжо ў іншай дзяржаве. Упэўнены, што зьмены, на мой погляд будуць абавязкова і Эўрапейскі марш можа стаць пачаткам гэтых зьменаў».*

Улады вельмі занепакоены падрыхтоўкай грамадскасьці да Эўрапейскага Маршу. Рэгіянальных актывістаў "Маладога Фронту" пачалі выклікаць у КДБ. Іх папярэджваюць пра крымінальную адказнасьць за падрыхтоўку і ўдзел у "Эўрапейскім маршы".

**Валер Мацкевіч:** *"Мяне палохалі крымінальнай справай. Толькі гэтым разам акрамя 193-га артыкулу фігураваў і 342-гі. Гэта падрыхтоўка акцыі, якая прывяла да масавых беспарадкаў.*

**Прэс-служба Маладога Фронту**

# Ратуйма Нёман




*Некалькі гадоў таму намер пабудаваць ГЭС на Нёмане выклікаў пратэст сярод эколягаў і грамадскасьці*

***Беларускія энэргетыкі не пакідаюць ідэі пабудовы ГЭС на Нёмане з 1999 года. Сёлета ўрад Беларусі зацьвердзіў архітэктурны праект Гарадзенскай гідраэлектрастанцыі. Ацэнкі эфэктыўнасьці такога збудаваньня палярна разыходзяцца: з аднаго боку кажуць, што плянуемая магутнасьць у 17 МВт перавышае агульную магутнасьць усіх дзеючых ГЭС Беларусі. Паводле іншых ацэнак, гэта лічба складае не больш за 5-6 % ад усяго энэргабаланса Гарадзеншчыны.***

У кастрычніку бягучага года плянуецца пачаць земляныя працы. Тэрмін сканчэньня будаўніцтва – 2010 год.

Нагадаем, што некалькі гадоў таму намер пабудаваць ГЭС на Нёмане выклікаў пратэст сярод эколягаў і грамадскасьці. Праціўнікі будаўніцтва ГЭС лічаць, што гэта можа выклікаць зьмены ў відавой разнастайнасьці рыбаў і іншых арганізмаў у бок пагаршэньня, пад вадой апынуцца гістарычныя і археалягічныя помнікі.

У лістападзе 2005 г. у Менску ГА «Экадом» ладзіла круглы стол з удзелам экспэртаў, прадстаўнікоў Белэнэрга, прадстаўнікоў грамадзкасьці і журналістаў. Тады ж навукоўцы ды экалягічныя актывісты прадставілі свае довады, якія сьведчаць пра небясьпеку праекту:

*Існуе вялікая верагоднасьць размываньня берагоў ракі і спыніць гэтыя працэсы будзе практычна немагчыма. У гэтых мясьцінах мяккія пясчана гліністыя грунты. У небясьпецы апынуцца жыхары навакольных вёсак: Каматава, Сьвіслач, Сялюкі, Міхайлава, Паняжаны, Багатырэвічы, Каўшова, Мяшэтнікі.*

*У выніку будаўніцтва ГЭС будзе затоплена 866 га лесакустарніка.*

*Пры будаўніцтве ГЭС загіне шмат рыбы, сярод якой ёсьць прадстаўнікі Чырвонай Кнігі. Няма ацэнкі ўзьдзеяньня на супольствы птушак, што жывуць на тэрыторыі будучага вадасховішча і інш.*

Нельга забываць і пра эканамічны бок пытаньня. Ужо па сёняшніх падліках вядома, што будоўля Гарадзенскай ГЭС будзе каштаваць 88 млн даляраў! Пры гэтым неабходна адзначыць, што ў сусьветнай практыцы нормай лічыцца, калі суадносіны паміж коштам будоўлі і праэктнай магутнасьцю станцыі складаюць ня больш за 2,5 тысячы даляраў за кілават энэргіі. У сытуацыі з 17-ці мегаватнай Гарадзенскай ГЭС кожны кілават будзе каштаваць 5 тысяч даляраў.

Варта адзначыць, што ў Літве мясцовыя энэргетычныя кампаніі таксама выказвалі жывую зацікаўленасьць да падобных праектаў. Аднак пад ціскам грамадзкасьці, якая мела абсалютны доступ да неабходнай інфармацыі, вымушаныя былі адступіць. Цяпер у Літве на заканадаўчым узроўні такія праекты забароненыя. У Беларусі такога няма.

**Прэс-служба МФ**

# Улады не супакойваюцца...

**Пасьля вынясеньня праўнальна мяккіх прысудаў маладафронтаўцам у Салігорску, Нясьвіжы і Баранавічах, улады працягваюць аказваць ціск на «Малады Фронт».**

Апошнім часам супрацоўнікі міліцыі і КДБ правялі ператрусы на кватэрах актывістаў незарэгістраванай арганізацыі "Малады фронт" Кірыла Атаманчыка ў Жлобіне і Арсенія Ягорчанкі ў Сьветлагорску.

У Жлобіне ператрус ладзіўся супрацоўнікамі жлобінскага КДБ – маёрам Глянцэвічам і старшымі лейтэнантамі Коласам і Вавілавым. У хлопца сканфіскавалі сыстэмны блёк кампутара, шэсьць бел-чырвона-белых сьцягоў, балёнчыкі з фарбай і значыкі.

Потым Кірыла выклікалі на допыт у КДБ, які вёў сьледчы Колас. Адбываўся ён у прысутнасьці бацькі Кірылы, бо Кірыла непаўналетні. Сьледчага цікавіла дзейнасьць маладога чалавека, яго прыналежнасьць да незарэгістраванага «Маладога фронту».

*«Мяне дапытвалі ў якасьці сьведкі, пра крымінальную справу супраць мяне асабіста не вялося, але я не выключаю, што ў часе наступнага допыту мой статус зьменіцца»* – патлумачыў К. Атаманчык.

Актывісты "Маладога фронту" лічаць, што супрацоўнікі КДБ распачынаюць крымінальныя справы за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі — пасьлядоўна ва ўсіх рэгіёнах. Спачатку судзілі шасьцёх менскіх актывістаў. Потым дваіх у Менскай вобласьці і аднаго ў Берасьцейскай. Цяпер крымінальныя справы пагражаюць гомельскім рэгіянальным актывістам. На чарзе, паводле выказваньняў саміх супрацоўнікаў КДБ, — Магілёўшчына.




***Нягледзячы на ціск, МФ працявае барацьбу***

Не пакідаюць у спакоі і заснавальніка «Маладога Фронту» Паўла Севярынца. За апошнія два месяцы пасьля свайго выхаду з «хіміі» Павал адсядзеў у арышце ўжо 47 сутак. У краіне распачатая жорсткая судовая траўля палітыка.

Нягледзячы на ціск, маладафронтаўцы працягваюць барацьбу супраць дыктатуры і запрашаюць усіх неабыякавых уступіць у шэрагі арганізацыі.

**ДАЛУЧАЙСЯ:**

**e-mail: dzida@dzida.org**

# ПАЧУЦЦЁ ПОЎНАЙ СВАБОДЫ МАКСІМА ГУБАРЭВІЧА

***"Самае класнае – першы дзень на волі. Ад свежага паветра кружыцца галава. Нарэшце можна хадзіць не толькі па камеры 6 х 6 метраў. Едзеш на машыне ці ў аўтобусе - і цябе агортвае пачуцце поўнай свабоды».***

**З такімі думкамі Максім Губарэвіч, былы маладафронтавец, а цяпер намеснік кіраўніка гарадзенскай партыі БНФ у чарговы раз выйшаў з ізалятара. Што адчуваў, седзячы там, пра што думаў, чым займаўся і як усё было успамінае Максім.**



*Максім Губарэвіч*

**ХТО І ЗА ШТО**

У той дзень мяне выклікалі на размову ў КДБ. Размова была стандартнай: дзе быў, з кім, што рабіў. Паводзілі сябе культурна, без пагроз. Праз гадзінкі паўтары, калі падыходзіў да сабора, бакавым зрокам ўбачыў разглядаючых мяне з УАЗіка міліцыянтаў. Скочыў ва універсітэт. Праз запасныя дзверы выйшаў у парк, дзе мяне і сустрэлі тыя ж супрацоўнікі міліцы. "Ён лаяўся матам па мабільным тэлефоне!" – сведчылі яны на судзе. "Дык я ж нікому не тэлефанаваў, магу нават раздрукоўку прадставіць!" – адказаў Максім і "сеў" у ізалятар у чацверты раз.

Ён лічыць, што гэта ўсё з-за святкавання дня перамогі пад Воршай 1514 года. Такім чынам міліцыянты спрабавалі запалохаць моладзь, а таксама перастрахавацца ад акцый з боку апазыцыі у дзень народзінаў БРСМ.

**КАМЕРА**

Усіх "сутачнікаў" трымаюць у ізалятары на вуліцы Гая. Там, у параўнанні з ізалятарам на Тэльмана, больш-менш прыстойныя камеры. Я сядзеў у такой, у даўжыню яна - 15 ног, прыкладзеных адна да адной.У камеры - драўляны ляжак. Ён займае прыкладна палову камеры і адрозніваецца ад падлогі толькі тым, што вышэйшы за яе на паўметры. Першыя дні вельмі цяжка прызвычаіцца спаць у такіх умовах: падсцілак ніякіх німа, матрасаў няма, спіш на тым, што было на табе. Калі маеш швэдар, кладзеш яго пад галаву, але ноччу ўсё роўна апранаешся, бо халадно. На Гая яшчэ нармальны туалет: цывілізаваны ўнітаз, які нават адгароджаны ад памяшкання драўлянай шыльдай.

Умывальнік. Гавораць, у некаторых камерах час ад часу нават з'яўляецца гарачая вада. Ізалятар новы, таму там даволі чыста.

На вокнах краты ў тры рады. Адзіная крыніца святла – лямпачка, якая ніколі не выключаецца.

Яшчэ там ёсць сігнальны гузік выкліку ахоўніка. Націскаеш на яго, на пульце высвятляецца нумар камеры і ахоўнік прыходзіць да цябе.

**ЕЖА**

Спачатку а шостай раніцы будзяць і раздаюць гарбату. Часам нават з цукрам. Ежа трохі прэсная, але з раніцы нармальна ідзе.

Потым, у гадзін 12 такая ж самая гарбатка.

А шостай па поўдні – вячэра. На першае – суп, нармальны, хоць часам перасолены. Там нават мяса можна знайсці. А на другое нейкая каша (вельмі прэсная), збоку ляжала некалькі кавалкаў смажанай рыбы (напэўна, самай таннай), усё было засыпана буйнапарэзанымі свежымі агуркамі, заліта алеем, а зверху, на гэткай "пірамідзе" ляжала катлета. І паўбуханкі чорнага і белага хлеба…

**ПРАВІЛЫ**

З рэчаў забіраюць усё, што магчыма, акрамя вопраткі. Шнуркі і папругі таксама. Раней распраналіся да трусоў, каб нічога такога не трапілся. Зараз мяне амаль не праглядалі. Я сам быў здзіўлены, калі ў мяне ўначы з кішэні выпала манетка і зазвінела.Я нават не ведаў пра яе.

Але ж народ хітруе і нешта праносіць. Адзін хлопец жалезны цвік невядома адкуль дастаў, рабіў стаканчык з пластыкавай бутэлькі. Гадзіннік таксама забіраюць, называюць толькі прыкладныя лічбы. Цяжка арыентавацца ў часе. Я ведаў толькі, што сонца ўстае недзе а сёмай і заходзіць а восьмай.

**ДУМКІ**

Там кожны думае пра сваё. Большую частку часу спрабуеш забыцца, дзе знаходзішся. Лятаеш у сваіх марах: выйду, памыюся, з сяброўкамі пагуляю. Нейкія жыццёвыя сітуацыі аналізуеш, на гэты раз: навошта мяне арыштавалі. Вельмі шмат вольнага часу падумаць аб тым, на што раней не хапала часу. Галоўнае - расслабіцца і не грузіцца, бо дах паедзе ў замкнутым памяшканні.

**КАЛІ ХАПАЮЦЬ**

Першая думка: а раптам гэта не за мной! Калі хапаюць знянацку, заўседы нейкі шок: за што, як гэта? А калі ведаеш, што плануецца нейкая акцыя і цябе трэба нейтралізаваць, адчуваеш дасаду: ай, не ўцёк.

**ШТО ДАЛЕЙ**

У жыцці сваім Максім нічога змяняць не збіраецца. Будзе і надалей займацца грамадска-палітычнай дзейнасцю. "Суткі" ўжо даўно яго не палохаюць…

**Паводле «Твой Стыль»**

# БЕЛАРУСКУЮ КНІГУ - БЕЛАРУСКІМ ДЗЕЦЯМ

У межах кампаніі "Беларускую кнігу - беларускім дзецям" гарадзенскія маладафронтаўцы распачалі збор кнігаў для дзіцячых дамоў гарадзеншчыны.

Мы зьвяртаемся да ўсіх неабыякавых людзей, з просьбаю падтрымаць кампанію і ахвяраваць беларускія кнігі для дзяцей-сіротаў.

Калі дзяржава ня можа на належным узроўні займацца адкукацыяй і выхаваньнем новага пакаленьня беларускае моладзі, мы мусім усімі магчымымі шляхамі спрыяць выхаваньню дзяцей, паводле нацыянальных каштоўнасьцяў і хрысьціянскіх прынцыпаў!

Сёньня мы распачынаем збор беларускамоўных кніжак для дзіцячых дамоў і школаў інтэрнатаў. Мы лічым гэта своечасовым і неабходным крокам, які дасьць магчымасьць беларускім дзецям з маленства чытаць творы на роднай мове, расьці сапраўднымі і шчырымі беларусамі. Ня будзьма абыякавымі!

***Прымі ўдзел у кампаніі: +37529 5855138***

# Падзеньне нораваў

**Нягледзячы на дадзеныя дзяржаўнай прапаганды, паказчыкі нараджальнасьці ў Беларусі падаюць. Прырост насельніцтва забясьпечваецца уцекачамі з краінаў «Трэцяга Сьвету»**



*Чую неяк размову двух адзінаццацікласьнікаў. Абмяркоўваюць дзяўчат. Шкада, ня чуюць дзяўчаты, што пра іх хлапцы тыя кажуць.*

*«Была ў мяне адна, кажа: я цябе кахаю, ды да васемнаццаці гадоў ня дам. От падла! Ну я яе і кінуў, якая мне зь яе карысьць».*

*«Затое я неяк адну цёлку «падчапіў», прыехаў на машыне, сказаў што кахаю, зацягнуў у лазьню і ад'…аў…»*

*«А вось тая малая з 9- га класа – што за яна? Дасьць ці не?».*

*«Ну паспрабуй, пахадзі зь ёй крыху, можа і дасьць».*

Такія вось погляды на супрацьлеглы пол пануюць у многіх маладых хлопцаў. Са школьных гадоў яны прывыкаюць глядзець на жанчыну як на аб'ект сэксуальнай эксплюатацыі, на якуюсьці рэч. Потым, калі такі боўдзіла ўступае ў шлюб, няма нічога дзіўнага, што жыцьцё ў такой сям'і нешчаслівае альбо яна ўвогуле распадаецца. Дзе ж будзе тое шчасьце, калі муж не кахае жонку, бо здольнасць да сапраўднага кахання вынішчана яшчэ ў юнацтве і заменена на цягу атрыманьня асалоды ад выкарыстаньня іншае асобы…

Пераважная большасьць моладзі, шукае партнэра не для стварэньня сямы, а выключна для сэксуальнага задавальненьня. Але пара задумацца… Тэмпы штогадовага прыросту колькасьці насельніцтва Беларусі пачалі зьніжацца з 1970-х гадоў. А ў 1993 годзе сьмяротнасьць упершыню перавысіла нараджальнасьць і краіна ўступіла ў пэрыяд устойлівай і працяглай дэпапуляцыі. Штогод у рэспубліцы становіцца на 50 тыс. жыхароў меней.

Адна з прычынаў дэпапуляцыі – скарачэньне нараджальнасьці, узровень якой на сёняшні дзень не забясьпечвае нават звычайнае ўзмяшчэньне бацькоўскіх пакаленьняў. На зьмяньшэньне ўзроўню нараджальнасьці аказваюць уплыў такія чыньнікі, як пагаршэньне эканамічнага становішча насельніцтва, экалягічная неспрыяльнасьць, пагаршэньне рэпрадукцыйнага здароўя . Вельмі важным фактарам зьяўляецца зьмяненьне шкалы жыцьцёвых каштоўнасьцяў моладзі, якое характарызуецца нежаданьнем заводзіць дзяцей.

Акрамя таго ў Беларусі павялічваецца ўзрост уступленьня ў першы шлюб, верным "спадарожнікам"сямейнага жыцьця становіцца адкладаньне нараджэньня першанца. Паводле дадзеных статыстыкі 59% семьяў абмяжоўваюцца толькі адным дзІцём, дваіх дзяцей маюць 35%, а траіх і больш – толькі 6%семьяў. Пераход ад масавай двухдзетнай сямы да масавай аднадзетнай азначае, што пакаленьне дзяцей будзе ўдвая меньш пакаленьня бацькоў.

Замацаваньне сацыяльнай нормы аднадзетнасьці ў грамадзкай сьвядомасьці можа прывесьці да неабарачальнасьці працэса скарачэньня нараджальнасьці і адпаведна колькасьці насельніцтва...

*Лёс Беларусі ў руках моладзі!*

***Андрусь Цэнцэвілья***

**Цяпер ВЫ можаце знайсьці ДЗІДУ ў інтэрнэце: www.dzida.org**
**Чакаем вашыя лісты на наш e-mail: dzida@dzida.org**

# Сьпяваем разам

## Чыстая, сьветлая

**NRM - ТРЫ ЧАРАПАХІ**

**D Dsus A**
Я дакрануся да цёплага ветру,
**D Dsus Cmaj**
Я буду бачыць у ночы празь цемру,
**D Dsus Bmaj**
Я зразумею, што ў сьценах ёсьць дзьверы,
**G A B C**
Я зразумею, што ў сьценах ёсьць вокны…
Непрадказальнымі будуць учынкі,
Шматкаляровымі зробяцца хмары,
Хтосьці раскажа пра новыя плыні,
Ты будеш ведаць усё, што захочаш.

***Прысьпеў:***
**G H B G#**
Ты будзеш самая сьветлая,
Ты будзеш самая чыстая,
Ты будзеш самая белая,
Ты будзеш самая-самая.

Я буду брудным і шэрым і дрэнным,
Я буду хворым, слабым і хлусьлівым,
Мне не пазьбегнуць гэтай адплаты,
Мы крочым назад, мы вяртаемся позна.

***Прысьпеў.***
Будзе пачуты шолах лістоты,
І зразумелымі стануць аблокі,
Неба і сонца як дар урачысты,
Я буду дыхаць іньшым паветрам.

***Прысьпеў.***
Сьветлая-сьветлая-сьветлая,
Чыстая-чыстая-чыстая,
Белая-белая-белая,
Самая-самая-самая.

# Напішы палітвязьню

**ЗЬМІЦЕР ДАШКЕВІЧ:**
213004, Магілёўская вобласьць
г. Шклоў, ВК-17

**АРТУР ФІНЬКЕВІЧ:**
212002, г. Магілёў, пр. Пушкінскі д.65, ВУАТ №43, пакой 206

ГАЗЭТА ГАРАДЗЕНСКАГА «МАЛАДОГА ФРОНТА»

Галоўны рэдактар:
**Кастусь Каліноўскі**
e-mail: dzida@dzida.org

Газэта заснавана ў 1999 годзе

Наклад 299 асобнікаў
Аб`ём 0,5 умоўныя аркушы